ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 31 (2381) 4 жніўня 1994 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 200 рублёў.

ЖЫЦЦЁ І ЛЁС Таццяны ЗОРЫНАЙ

## ЧАЛАВЕК: ТВАРЭННЕ БОЖАЕ ЦІ БЯЗДУМНАЯ МАШЫНА?

Сустракаюцца лёсы, даведаўшыся пра якія, думаеш: напэўна менавіта гэтую асобу абраў Бог, каб праверыць чалавека на трываласць, высветліць, што можа вынесці яго самае дасканалае тварэнне. Такая думка ўзнікла ў мяне, калі я слухала Таццяну Зорыну.

Нарадзілася Таццяна Рыгораўна ў вёсцы, працаваць пачала рана і ахвотна, але аднойчы маці, гледзячы, як яе любімая дачка, нібы дарослая, завіхаецца на калгаснай ферме, пашкадавала яе і параіла: едзь, дачушка, у горад, можа там лягчэй будзе. Паслухмяная Таня ў горад сапраўды падалася, але матчына парада жыццё ёй не аблягчыла і шчасця не прынесла. Сапраўды, аднаму, дзе б ні працаваў і што б ні рабіў, паўсюль шчасціць будзе, другому -- наадварот, як бы ні скаліся абставіны, наканавана прайсці ўвесь нялёгкі шлях жыццёвых выпрабаванняў. Так што і ў горадзе, куды многія вяскоўцы адпраўляюць сваіх дзяцей па лёгкі хлеб, Таццяна Зорына ўмудрылася набыць зусім не жаночую прафесію электразваршчыцы. У трэсце Белэнергамантаж, які зараз завецца канцэрнам па энергетычнаму будаўніцтву і будаўнічай індустрыі, яна працавала трыццаць пяць гадоў. Спачатку ўсё складвалася быццам бы няблага. Выйшла замуж за хлопца, які працаваў у гэтым жа трэсце, нарадзіла дваіх дзяцей, цяжкая прафесія маладой і здаровай жанчыне падавалася не такой ужо і складанай, ды і ўласцівае маладосці падманлівае адчуванне, што наперадзе ўсё жыццё, дапамагала не заўважаць бытавую неўладкаванасць і іншыя праблемы. Але аднойчы ўсё скончылася. Муж Таццяны Рыгораўны загінуў страшна і недарэчна. Разам з сябрамі ў навальніцу на лодцы вяртаўся дамоў з аб'екта, на якім працавалі. Маланка трапіла ў лодку. Так іх усіх потым і знайшлі -- на дне ракі сядзелі, гэтай самай лодкай накрытыя. Вось і засталася Таццяна Зорына маладой удавой з двума малымі дзецьмі. Ці трэба гаварыць, якім было тады яе жыццё? "Хто пра што Бога маліў, -- успамінае Таццяна Рыгораўна, -- а ў мяне, здаецца, толькі адна просьба да яго і была -- выспацца..." Але час ішоў, сустрэўся Таццяне добры чалавек, таксама працаваў у трэсце, і яны пажаніліся. Неўзабаве нарадзілася яшчэ трое дзяцей, і ўрэшце трэст вырашыў "ашчаслівіць" сваіх супрацоўнікаў -- выдзеліў ім у Гомелі ажно трохпакаёвую кватэру. Як ні тлумачыла Таццяна Рыгораўна начальству, што сямі чалавекам на сарака квадратных метрах будзе цесна, як ні прасіла адразу да гэтай кватэры яшчэ адну двухпакаёвую -- яе і слухаць не хацелі, і тлумачылі ў адказ, што трэба быць больш сціплай і думаць пра іншых, у прыватнасці, пра тое ж начальства і маладых спецыялістаў, якім таксама няма дзе жыць. Таццяна Рыгораўна ўспомніла, што некалі таксама была маладым спецыялістам, але нікому ў той час не прыйшло ў галаву паклапаціцца пра яе. Успомніла і пра тое, як безадмоўна ездзіла ў камандзіроўкі, нягледзячы на пяцёра малых дзяцей, і пра тое, як на Лукомльскай ДРЭС яна, цяжарная, адмовілася ад лёгкай працы, на якую мела права па закону, і выйшла з дэкрэтнага водпуску ўсяго праз два месяцы пасля нараджэння дзіцяці, таму што была брыгадзірам і адчувала сябе адказнай за трасу, якую вяла. Але ўспаміны Таццяны Рыгораўны не цікавілі нікога, акрамя яе самой.

З другім мужам жыццё не склалася, але добрыя адносіны захаваліся. Грошы на дзяцей дасылаў, бачыўся з імі, пакуль не напаткала новая бяда. Год таму ён, удзельнік ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС, прыехаў да іх і паведаміў пра свой страшны дыягназ -- рак. Таццяна Рыгораўна спачатку не паверыла, але пухліна пачала расці, мужу зрабілі аперацыю. І ў самой Таццяны Рыгораўны ўзніклі сур'ёзныя праблемы са здароўем. Адбіліся вынікі цяжкай траўмы, атрыманай пры падзенні з шасціметровай вышыні, дыябет, хвароба сэрца, не так даўно яе паставілі на ўлік у анкалагічным дыспансеры. Ці трэба здзіўляцца, што гомельскія ўрачы параілі жанчыне як мага хутчэй пакінуць горад, які закранула чарнобыльская бяда. Так і атрымалася, што двое старэйшых дзяцей засталіся ў Гомелі, а Таццяна Рыгораўна ўзяла доўгатэрміновую камандзіроўку, траіх малодшых, самыя неабходныя рэчы і адправілася ў Мінск.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

27 ЛІПЕНЯ – ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



**Дзве падзеі, што папярэднічалі 4-й гадавіне з Дня абвяшчэння незалежнасці нашай дзяржавы, маюць, на мой погляд, не толькі сімвалічнае значэнне. Яны сведчаць пра тое, што на злосць ці насуперак усім рэакцыйным інтэрнацыяналісцкім сілам працэс суверэнізацыі не спыніцца.**

**Першая з падзей адбылася 22 ліпеня, якраз на другі дзень пасля прыняцця прэзідэнтам Беларусі А. Лукашэнкам прысягі на вернасць свайму народу.**

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

*Генадзю ГАРБУКУ — 60 ГАДОЎ*

## ПРАФЕСІЯ І ЯЕ ТАЯМНІЦЫ



Спектакль "Людзі на балоце" -- залаты фонд Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, яго класіка. З нараджэннем гэтай пастаноўкі звязана многае ў творчасці народнага артыста рэспублікі Генадзя Гарбука, хоць сустрэча з мележаўскай "Палескай хронікай" пачалася значна раней. Была радыёпастаноўка, потым тэлеспектакль, у якім яго работа адзначана Дзяржаўнай прэміяй Беларусі.

-- Роля Васіля Дзятліка мне вельмі дарагая, -- гаворыць артыст. -- Яна ў маім творчым жыцці -- першая вялікая ўдача. Што ні раблю, усё параўноўваю з Васілём...

(Заканчэнне на 7-й стар.).

НОСЬБІТ ПРАМЯНІСТАЙ БЕЛАРУСКАЙ ІДЭІ

## "ЧАМУ АДСТУПНІКАЎ У НАС ТАК МНОГА?"

Цяпер, безумоўна, будзе дарэчы ўспомніць добрым словам імя чалавека, які справе стварэння незалежнай беларускай дзяржаўнасці прысвяціў усё сваё жыццё. Гэта вядомы дзеяч беларускага нацыянальнага руху, прэзідэнт Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Пётр Крэчэўскі, паэт і публіцыст.

Нарадзіўся Пётр Крэчэўскі 7 жніўня 1879 года ў сям'і дзяка сельскага прыходу Кобрынскага павета былой Гродзенскай губерні. У 1902 годзе ён скончыў Віленскую духоўную семінарыю, на працягу сямі гадоў працаваў настаўнікам у Беластоцкім і Ваўкавыскім паветах. У 1909 годзе ён вырашыў змяніць сваю прафесію і паступіў на працу ў Віленскі дзяржаўны банк. У якасці інспектара дробнага крэдыту ён працаваў да самай вайны. У гэты час Пётр Крэчэўскі пісаў вершы, прасякнутыя лірыкай кахання. (Рукапіс іх захоўваецца ў аддзеле рукапісаў ЦНБ АН Беларусі). Напісаны яны былі на рускай мове. Вось адзін з вершаў, датаваны 3 студзеня 1914 года:

(Заканчэнне на 6-й стар,).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ

## СТВОРАНА АДМІНІСТРАЦЫЯ

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ аб стварэнні адміністрацыі Прэзідэнта. Кіраўніком адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь назначаны Леанід Сініцын, які раней працаваў намеснікам старшыні Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях архітэктуры, будаўніцтва, вытворчасці будаўнічых матэрыялаў і жыллёва-камунальнай гаспадаркі вёскі і горада. У час выбарчай кампаніі Леанід Сініцын узначальваў штаб кандыдата ў Прэзідэнты рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі.**

**Леаніду Сініцыну, як і Прэзідэнту, сорак гадоў. Ён інжынер-будаўнік па прафесіі. У Вярхоўны Савет выбіраўся, калі быў галоўным інжынерам трэста № 17 магілёўскага "Лаўсанбуда".**

ПРЫЗНАЧЭННІ

## ПЕРШЫЯ ЎКАЗЫ — КАДРАВЫЯ

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў першыя ўказы. Яны датычацца назначэнняў прэм'ера, віцэ-прэм'ераў і некаторых міністраў. Як вядома, узначаліць новы Кабінет міністраў Міхаіл Чыгір, намеснікамі яго сталі Уладзімір Гаркун, Віктар Ганчар, Міхаіл Мясніковіч і Сяргей Лінг. Апошнія двое са старой каманды В. Кебіча. Па рашэнню прэзідэнта і з адабрэння парламента Міністэрства абароны ўзначаліць Анатоль Кастэнка, Міністэрства ўнутраных спраў -- Юрый Захаранка, Камітэт дзяржаўнай бяспекі -- Уладзімір Ягораў, Міністэрства замежных спраў -- Уладзімір Сянько, былы пасол Беларусі ў Вялікабрытаніі.**

*"Сёння як ніколі неабходна адзінства дзяржавы і грамадства. Ёсць разыходжанні -- і немалыя -- у спосабах і сродках дасягнення праграмных мэт, якія прапануюцца рознымі партыямі і рухамі. Таму, калі ўсе партыі змогуць дасягнуць згоды ў галоўным, што складае нацыянальны інтарэс, то несупадзенні ў пытаннях тактыкі дзеянняў не будуць перашкодай агульнай справе (было б жаданне супрацоўнічаць). Неабходна падумаць над распрацоўкай механізма ўзгаднення пазіцый розных сацыяльных сіл, партый і грамадскіх аб'яднанняў, якія адлюстроўваюць іх інтарэсы, механізма рэальнай кансалідацыі грамадства.*

*Грамадзянская згода павінна датычыцца не толькі партый, але і нацыянальнасцей, і рэлігійных канфесій. Мы ўсе розныя, але ў нас адна зямля, адна дзяржава. Нам тут жыць. Таму пытанне згоды для нас -- пытанне надзвычай важнае і асноватворнае".*

*(З выступлення Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКІ на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным Дню незалежнасці).*

ЦЭНЫ

## КАБ РАТАВАЦЬ КАЗНУ

**Услед за павышэннем закупачных цэн на некаторую сельскагаспадарчую прадукцыю наступала пара і розничных. На гэты раз збяднелы дзяржаўны бюджэт урад мае намер папраўляць за кошт пераходу на рэалізацыю мяса і мясапрадуктаў па бездатацыйных цэнах. Таму з 28 ліпеня чарговы раз -- пакуль што на 86 працэнтаў -- падаражэе свініна, больш чым напалову -- ялавічына і на 65 працэнтаў -- каўбасныя вырабы.**

ПЕРШЫ І АДЗІНЫ

## РАТУЮЧЫ ФАУНУ

**Поўнае знікненне ў бедных лясах Горацкага раёна Магілёўшчыны многіх відаў жывёл прымусіла кіраўніцтва раёна стварыць у адным з урочышчаў плошчай 1 200 гектараў заказнік-рэзерват, дзе на тры гады забаронена ўсякае паляванне.**

**Гэта першы і пакуль адзіны заказнік у раёне, дзе лясы займаюць усяго 17 працэнтаў тэрыторыі.**

ЭКСГУМАЦЫЯ

## МОГІЛКІ... ПАД ПАРКАМ АДПАЧЫНКУ

**На тэрыторыі Гомельскага парку культуры і адпачынку праводзяцца работы па эксгумацыі і падрыхтоўцы да перазахавання на радзіме астанкаў 111 загінуўшых італьянцаў.**

**У гады фашысцкай акупацыі немецкі бок выкарыстаў частку парку ў якасці могілак.**

**Раскопкі праходзяць у адпаведнасці з пагадненнем паміж Камітэтам па сацыяльнай ахове ваеннаслужачых пры Савеце Міністраў Беларусі і Міністэрствам абароны Італіі.**

САМАЯ СУЧАСНАЯ

## КАМП'ЮТЭРНЫ МОСТ

**У Беларусі плануецца пачаць вытворчасць самай сучаснай камп'ютэрнай тэхнікі сусветна вядомай англійскай фірмы Ай-сі-эль. Мостам паміж заходнімі тэхналогіямі і нашым рынкам стане Брэсцкі электрамеханічны канцэрн. Менавіта тут ужо ў гэтым годзе будзе сабрана пяць тысяч персанальных камп'ютэраў вядомай маркі.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

МІНІСТЭРСТВА сувязі і інфарматыкі Беларусі зацвердзіла палажэнне аб дзяржаўных знаках паштовай аплаты. Цяпер вядомыя палітыкі, дзеячы навукі, культуры і г.д. могуць быць адлюстраваны на канвертах і марках не раней, чым праз 10 год пасля сваёй смерці, а таксама да юбілею з дня нараджэння, кратных 25. Падзеі гістарычнага значэння, юбілеі ўтварэння абласцей, гарадоў, прадпрыемстваў, арганізацый, навучальных устаноў -- па датах, кратных 50 гадам.

ПАВОДЛЕ звестак, атрыманых у дзяржаўным мытным камітэце, за другі квартал гэтага года мытныя органы Беларусі завялі больш 3 тысяч спраў на кантрабанду, іншыя адміністрацыйныя правапарушэнні пры праездзе праз дзяржаўную граніцу. Канфіскавана тавараў, каштоўнасцей і грашовых сродкаў на агульную суму, якая перавышае 65 мільёнаў рублёў.

ФЕНОМЕНУ Аляксандра Лукашэнкі, першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, будзе прысвечана кніга. Пра яго жыццё, грамадска-палітычную дзейнасць і нечаканы прыход да ўлады раскажуць яе старонкі. Аўтарам кнігі мае быць Уладзімір НІСЦЮК, кіраўнік прэс-службы колішняга кандыдата ў прэзідэнты.

ТЭНЗАМЕТРЫЧНЫЯ вагі як стацыянарныя, так і настольныя пачаў выпускаць мінскі завод "Эталон". Гэты маленькі цуд айчыннай электронікі можа працаваць з персанальнымі камп'ютэрамі. "Эталон" -- адзінае ў Беларусі прадпрыемства, якое выраблае высокавымяральную апаратуру сусветнага ўзроўню.

НАША МАРКА



**Для англійскіх моднікаў пастаўляе сваю прадукцыю арэнднае прадпрыемства "Гродна-абутак". Гэта своеасаблівае прызнанне новай маркі, калі ўлічыць, што замежныя гандлёвыя фірмы ведаюць толк у справе.**

**З задавальненнем набываюць абноўкі прадпрыемства і нашы спажыўцы. Абутак, зроблены ў Гродне, элегантны, зручны ў нашэнні. Вядома, у многім тармозіць палёт фантазіі мадэльераў састарэлае матэрыяльна і тэхнічна абсталяванне. Сказваецца і нядахоп матэрыялаў, у першую чаргу, скуры. Але нават у гэтых умовах гродзенскія абутнікі ўмудраюцца выпускаць прадукцыю, якая задавальвае густы заходніх спажыўцоў.**

**НА ЗДЫМКУ: у цэху па вырабу спартыўнага абутку.**

НАТАТКІ З НАГОДЫ

# КАМУ ВЕРЫЦЬ: НЯБЕСНЫМ ЗОРКАМ ЦІ ЗЯМНЫМ ПАЛІТЫКАМ?

Скажу шчыра, асабіста я Аляксандра Лукашэнку на прэзідэнцкіх выбарах выкрэслівала з бюлетэняў і ў першым, і ў другім туры галасавання. Нават чыста знешне мне не падабалася яго нервовасць, насцярожвалі бясконцыя перадвыбарныя "крымінальна-псіхалагічныя" інцыдэнты, што здараліся з ім амаль ці не кожны дзень, выклікала недаўменне тая ўпартасць, з якой прэтэндэнт у першыя беларускія прэзідэнты дэманстратыўна насіў на лацкане ўсіх сваіх касцюмаў "саўдэпаўскі" беларускі значок... Сёння я шчыра спадзяюся, што ў яго нешта атрымаецца, што ў рэшце рэшт казка пра каліфа на гадзіну будзе не пра яго і наш кароль, прабачце, прэзідэнт, не акажацца, яшчэ раз прабачце, голым... І гэта не таму, што я вось так адразу пасля выбараў "закахалася" ў яго. Не, проста мы ўсе, мабыць, больш не вытрымаем новых расчараванняў, падману і чарговых выбараў. Калі зноў выявіцца, што спадзяванні людзей марныя, псіхалагічна-маральнаму стану ўсяго нашага грамадства будзе нанесены страшэнны ўдар. Вы толькі паглядзіце: у другім туры за Аляксандра Лукашэнку прагаласавала восемдзесят працэнтаў (!) выбаршчыкаў: стомленыя людзі паверылі яму, як дзеці малыя, і падмануць іх цяпер -- гэта тое ж, што падмануць дзіця. Так, народ умее вельмі моцна любіць, але можа таксама моцна і ненавідзець. А ад любові да ненавісці, як вядома, адзін крок, асабліва ў палітыцы. І прыкладаў гэтаму хапае.

Інаўгурацыя першага беларускага прэзідэнта на пятнаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі пакінула вельмі сціплае ўражанне. Мне падалося, што ва ўсёй (дарэчы, біткам набітай) зале пасяджэнняў хваляваўся толькі адзін чалавек -- сам Аляксандр Лукашэнка, астатнія глядзелі з цікаўнасцю, не больш таго. З прывітальнымі словамі выступілі нешматлікія замежныя госці -- прадстаўнікі кіруючых колаў Расіі, Польшчы, Літвы, Малдовы і Грузіі. Шэраг краін былі прадстаўлены пасламі. Ну, а каб "мышы" --прэзідэнцкая каманда -- не драмалі, адразу пасля гасцей выступіў "кот" -- Зянон Пазьняк, які сваёй віншавальнай прамовай даў зразумець, што апазіцыя нікуды не падзелася і працягвае палітычную барацьбу. Пасля З. Пазьняка шэраг традыцыйных запытаў новаспечанаму прэзідэнту зрабіў дэпутат, грамадовец Алег Трусаў. Кропку ж у віншаваннях з боку надзейных калег па парламенту паставіў дэпутат ад інвалідаў Нятылькін, які слёзна прасіў прысутнага ў зале расійскага віцэ-прэм'ера Шохіна хутчэй узяць Беларусь пад сваю апеку, а то, мауляў, зусім прападаем, няшчасныя, а прэзідэнта Лукашэнку -- ці не першым сваім указам надаць рускай мове статус дзяржаўнай.

Значна больш за саму інаўгурацыю прысутных цікавілі маючыя хутка адбыцца кадравыя змены ў Кабінеце міністраў. Абмяркоўваліся старыя і новыя імёны, у некаторых гэты занятак выклікаў чыста "спартыўны" інтарэс, нехта ж з заміраннем сэрца спрабаваў "прапічыць" свае шанцы атрымаць кавалачак уладнага пірага. Галоўныя вынікі ўжо вядомыя, хаця працэс дзяльбы яшчэ, здаецца, не скончыўся.

На другі дзень работы сесіі, калі Вярхоўны Савет зацвярджаў новага кіраўніка Кабінета міністраў і ключавых міністраў, прапанаваных прэзідэнтам, Аляксандр Лукашэнка літаральна ззяў: практычна ўсе яго кандыдатуры прайшлі праз парламент, як па маслу. Дэпутаты "завалілі" толькі Д. Булахава на пасаду старшыні Канстытуцыйнага суда. Мне здаецца, тут адыгралі сваю ролю не толькі малады ўзрост прэтэндэнта, але і тое, што ў біяграфіі гэтага юрыста ёсць трагічны эпізод, звязаны з аўтамабільнай катастрофай, у выніку якой загінуў чалавек. Следства прыйшло да заключэння, што Д. Булахаў, які вёў машыну, не вінаваты, і гэта сёння ніхто не ставіць пад сумненне. Але, магчыма, дэпутаты вырашылі, што фігура старшыні Канстытуцыйнага суда настолькі значная, што ніводзін негатыўны момант не павінен быць звязаны з ёю.

Сярод прызначаных на пасады ёсць людзі новыя, але хапае і функцыянераў з былога ўрада. Урэшце, гэта і зразумела, кіраваць дзяржавай -- таксама прафесія, якой трэба доўга вучыцца, і калі сёння новы прэзідэнт "прагоніць" усіх старых чыноўнікаў, а на іх месца паставіць зусім новых людзей, як гэтага вельмі хацелася б некаторым нашым грамадзянам, краіну напаткае параліч. Тут галоўнае не памыліцца, каго пакінуць, а ад чыіх паслуг рашуча адмовіцца.

Дарэчы, яшчэ пра "новых" людзей... Хочаце верце, хочаце не, але са здзіўленнем магу канстатаваць, што некалькі год назад у перыяд, так бы мовіць, астралагічна-палітычнага буму недзе прачытала, што ў Беларусі на чале дзяржавы стане чалавек зусім новы, чалавек са стараны, і што яму накаванавы поспех. Першая частка прадказання збылася, засталося зусім нямнога: трэба, каб і ў другой яго частцы непрадказальныя зоркі нас не падвялі, бо апошнім часам мы неяк прызвычаіліся больш верыць ім, чым абяцанням палітыкаў.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

# "ЧАМУ АДСТУПНІКАЎ У НАС ТАК МНОГА?"



(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

"Кто страданья людей понимает,
Кто умеет их скорби смягчить,
Кто от чистого сердца прощает,
Обладает тот даром любить!"

У 1914 годзе пачалася першая сусветная вайна, і 35-гадовы Пётр Антонавіч быў пакліканы на вайсковую службу і назначаны ваенным чыноўнікам -- справаводам аднаго з вайсковых ветэрынарных лазарэтаў.

Лютаўская рэвалюцыя 1917 года заспела Крэчэўскага на гэтай пасадзе ў Барысаве. З першых дзён, напоўненых бурлівымі падзеямі, ён уключыўся ў палітычную барацьбу. Крэчэўскі быў выбраны старшынёю Барысаўскага Савета салдацкіх і рабочых дэпутатаў. У якасці дэлегата ад гэтага Савета быў накіраваны на Першы Усебеларускі з'езд, які адбыўся ў снежні 1917 года. Тут Пётр Антонавіч узначаліў мандатную камісію. Добра ведаючы склад дэлегатаў з'езда, у артыкуле "Кто был на 1-м Всебелорусском съезде" ён піша, што прадстаўніком на з'ездзе быў сапраўдны беларускі народ -- сяляне, салдаты і група інтэлігенцыі, якая засталася вернай народу. П.Крэчэўскі быў выбраны ў склад Выканаўчага камітэта Рады Усебеларускага з'езда.

Адзін з паплечнікаў П.Крэчэўскага паэт Макар Краўцоў у сваіх успамінах даволі дакладна і каларытна падае партрэт Пятра Антонавіча:

"...яго пышная рыжаватая барада, крыху прыгнутая, вышэйшая за сярэдні рост фігура ў старым шынялі расейскага вайсковага ўрадніка, недастача пярэдніх зубоў у роце, а праз гэта і глухі тэнаровы тэмбр голасу пры гутарцы -- усё гэта рабіла яго нейкім старэйшым з выгляду... Не магу прыпомніць ані ценю гневу на яго шыраканосым светлым твары, а таксама ў вечна спакойным і вечна ласкавым паглядзе рашучых шырока расплюшчаных вачэй". У той час, у 1917 годзе, Пятру Антонавічу было толькі 38 гадоў.

На долю Крэчэўскага выпала ўдзельнічаць у стварэнні Народнага Сакратарыята Беларусі, у момант адступлення СНК Заходняй вобласці і фронта ён быў дэлегаваны да чыгуначнікаў, якія затрымлівалі бальшавіцкіх камісараў. Крэчэўскі параіў ім патрабаваць ад бальшавіцкіх камісараў заплаціць чыгуначнікам за паўгода наперад. Патрабаванне гэта было выканана.

З моманту стварэння Народнага Сакратарыята Беларусі Пётр Антонавіч займае шэраг важных урадавых пасад: дзяржаўнага кантралёра, народнага сакратара фінансаў, народнага сакратара гандлю і прамысловасці. Ён быў ініцыятарам увядзення ўласнай нацыянальнай валюты пасля дасягнення незалежнасці, прымаў актыўны ўдзел у абвяшчэнні Беларускай Народнай Рэспублікі і яе незалежнасці. П.Крэчэўскім быў распрацаваны праект фінансавых і фіскальных (падатковых) мерапрыемстваў, некаторыя моманты якога не страцілі свайго значэння і сёння. Так, у праекце прадугледжваецца ўкладанне замежных інвестыцый у эканоміку Беларусі як асновы прызнання рэспублікі і трывалага становішча ўласнай валюты, выпуск уласных грошай, якія забяспечваюцца агульным коштам наяўнага лесу (драўесная валюта). Трэба адзначыць, што П.Крэчэўскі займаўся не толькі тэарэтычнай распрацоўкай, але і практычнай дзейнасцю. 24 красавіка 1918 года Крэчэўскі ўзначаліў Цэнтральную беларускую гандлёвую палату. Гэтая ўстанова вырашала пытанні тавараабмену і забеспячэння насельніцтва Беларусі неабходнымі прадуктамі харчавання. У верасні 1918 года разам з Фёдарам Вернікоўскім заключаў пагадненне з урадам Украіны аб тавараабмене. У канцы 1918 года, пасля таго як было заключана пагадненне паміж Літоўскай тарыбай і Віленскай Беларускай Радай, Пётр Антонавіч выконваў абавязкі камісара у Гродзенскім павеце. У канцы 1919 года ў Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі адбыўся раскол. Прадстаўнікі партыі беларускіх эсэраў і сацыялістаў-федэралістаў, незадаволеныя прапольскай арыентацыяй беларускіх сацыял-дэмакратаў і ўрада Антона Луцкевіча, на сяджэнні 13 снежня 1919 года аб'явілі пра стварэнне Народнай Рады БНР на чале з П.Крэчэўскім.

З гэтага часу і да сваёй смерці П.Крэчэўскі ўзначальваў Раду БНР. З-за неспрыяльных абставін прадстаўнікі Рады БНР былі вымушаны падацца ў эміграцыю. Спачатку ў Коўне, потым у Празе Пётр Антонавіч не спыняе сваёй дзейнасці на карысць Беларускага нацыянальнага адраджэння. Ён пратэстуе супраць заключэння Рыжскага мірнага дагавора паміж Савецкай Расіяй і Польшчай. 20 мая 1924 года ён накіроўвае мемарандум у Лігу нацый, у якім дамагаецца належных беларускаму народу правоў. У 1926 годзе пад яго рэдакцыяй выходзіць зборнік па гісторыі, культуры і эканоміцы "Замежная Беларусь". У ім Пётр Антонавіч выступае не толькі як публіцыст, але як гісторык і літаратар. Актыўны палітычны дзеяч, у душы ён заўсёды заставаўся паэтам. Пра гэта сведчаць цэлы шэраг вершаў П.Крэчэўскага, што захаваліся, а таксама дзве вершаваныя паэмы.

У 1918 годзе, насычаным важнымі падзеямі, ён знаходзіць час і ў "Вольнай Беларусі" 9 чэрвеня змяшчае свой верш -- апрацаваную народную беларускую легенду пра стварэнне бусла. У сваім вершы ён піша:

"І беларус буслоў шануе,
Ён кажа: "Нельга бусла біць,
Бо Янкі ў ім душа існуе,
Ён чалавек і хоча жыць".

6 студзеня 1921 года П.Крэчэўскі стварае вершаваную драму "Рагнеда", а 2 лютага 1923 года робіць інсцэніроўку паэмы Агарова "Глінка". Шэраг вершаў, а таксама вершаваных перакладаў з чэшскай і ўкраінскай моў Пётр Антонавіч друкуе і ў зборніку "Замежная Беларусь". У вершы "Таемная смага" адчуваецца туга Крэчэўскага па Радзіме:

"Душу мне страх агортае,
Стыгне ў жылах і кроў...
Сэрца нічога не знае --
Цягнецца толькі дамоў."

Пётр Крэчэўскі як Старшыня Рады БНР не згадзіўся з рашэннем Берлінскай канферэнцыі 1925 года аб роспуску Рады БНР, лічыў гэта бальшавіцкай правакацыяй. Ён вельмі моцна перажываў, што многія з яго паплечнікаў паверылі абяцанням савецкай улады. У вершы "Мурашнік", параўноўваючы жыццё мурашак і людзей, Пётр Антонавіч піша:

"Паміж людзьмі мы бачым
штось другое...
Для Бацькаўшчыны працаваць
ім стыд,
Ім дзесьці свеціць шчасьце міравое,
А родны край няхай гарыць!.."

Памёр Пётр Крэчэўскі на пяцідзесятым годзе жыцця ў Вінагродскай бальніцы Прагі і быў пахаваны там на мясцовых могілках. Мінула 66 гадоў з дня смерці носьбіта ідэі беларускай незалежнасці, але многія думкі, выказаныя ім, на вялікі жаль, з'яўляюцца актуальнымі і сёння.

"Чаму адступнікаў у нас так многа!
Чаму ж такіх адступства не страшыць!
Чаму родны сьцяг не цягне да сваёга!
Чаму на ўласнай глебе працаваць
ім стыд,
Але не стыд -- у наймітах, у чужога."

Будзем спадзявацца, што верш-зварот "Беларускаму народу" будзе пачуты:

"Дзе слова наша, слаўны род
Славян, з прадвеку жыўшых вольна,
Выходзь жа, беларус-народ,
Са братняй крыўды безпатольнай,
Выходзь на сьвет з багны балот,
Як тыя рэчкі, што нясуцца
Зь зямлі тваёй на поўдзень, усход --
Выходзь, выходзь!.."

**Валянцін МАЗЕЦ.**

## "СЛАВЯНСКІ БАЗАР" АПРАЎДАЎ СПАДЗЯВАННІ





"Славянскі базар" у Віцебску прайшоў як вялікае ўрачыстае свята славянскіх культур. Ён стаў поруч з Сопатам, Карлавымі Варамі, Сан-Рэма і Лос-Анджэлесам. "Фестываль быў "запатэнтаваны" на самай прэстыжнай музычнай ярмарцы ў Канах, -- сказаў кіраўнік Віцебскай дырэкцыі фестываляў Радзівон Бас. -- Таму ў Віцебск разам з зоркамі эстрады прыехалі і шоу-менеджэры, славутыя музычныя арганізатары".

Віцебск з нядаўніх часоў называюць сталіцай славянскай музычнай культуры. І не толькі славянскай, бо побач са спевакамі і музыкантамі з усіх еўрапейскіх славянскіх дзяржаў гасцямі і ўдзельнікамі свята былі асобныя выканаўцы і творчыя калектывы з Францыі, Ірландыі, Румыніі, Італіі, Літвы, Грузіі, Малдовы, Узбекістана, славянскіх дыяспар з усіх куткоў зямнога шара.

Фестываль рассыпаўся па ўсім Віцебску, але галоўнай сцэнічнай пляцоўкай быў летні амфітэатр пад адкрытым небам на пяць тысяч гледачоў. І на гэтай славутай сцэне выступалі зоркі беларускай, рускай, украінскай эстрады -- Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, Юрый Антонаў, Тамара Гвердцытэлі, Ларыса Доліна, Уладзімір Мулявін з "Песнярамі", Ала Пугачова, Філіп Кіркораў, Надзея Бабкіна. У тэатры імя Якуба Коласа працаваў Цэнтр нацыянальных культур з разнастайнай праграмай, дзе можна было пазнаёміцца з культурнымі каштоўнасцямі братніх народаў. І гэта было бясплатна, хоць лепшыя білеты на фестываль каштавалі звыш **60 000** рублёў. Упэрашыню білет на любы фестывальны канцэрт быў яшчэ і латарэйным білетам.

На фестывалі праходзілі Дні нацыянальных культур, якія вызначаліся выступленнямі лепшых калектываў і славутых зорак эстрады той ці іншай краіны, выставамі мастакоў, выступленнямі маладых канкурсантаў.

Пра тое, што дае "Славянскі базар" Віцебску, сказаў старшыня гарвыканкама, прэзідэнт фестывалю Валерый Неушаў: "Для любога жыхара Віцебска фестываль -- вялікае свята. Акрамя таго, ён прыцягвае ў горад сродкі: напаўняецца гасцінічны комплекс, які звычайна пустуе, з поўнай нагрузкай працуе сфера бытавога абслугоўвання".

Удзельнік фестывалю Мікі Еўрэмавіч сардэчна выказаў свае адносіны да фестывалю, усёй яго добразычлівай атмасферы: "Калі б я не быў сербам, абавязкова б нарадзіўся беларусам".

Адшумеў "Славянскі базар", які многа абяцаў гледачам і непасрэдным удзельнікам і не падмануў іх спадзяванняў.

НА ЗДЫМКАХ: галоўная сцэна фестывалю; спявае Філіп КІРКОРАЎ.

## З ГІСТОРЫІ БЕЖАНСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ

# БЕЛАРУСЫ НА АБШАРАХ РАСІІ

Моладзь спрабавала зрэалізаваць свае адраджэнскія памкненні, аб'ядноўваючыся ў рознага кшталту арганізацыі. Так, увесну 1918 года ў Калузе паўстаў Гурток беларускай сацыялістычнай моладзі. Статутнай мэтай яго было "разьвіцьцё Беларускай нацыянальна-сацыялістычнай ідэі паміж Беларусамі". На тыя часы "сацыялістычнымі" называліся самыя розныя палітычныя плыні і групоўкі -- ад эсэраў і меншавікоў да анархістаў. Наўрад ці сябры гуртка арыентаваліся на пэўную палітычную і сацыяльную дактрыну, але хутчэй за ўсё гэткім назовам задэкляравалі сваю прыхільнасць да ідэі пабудовы сацыяльна справядлівага грамадства. Паводле статута, сябры гуртка павінны былі "по скольку хто можэ... гаварыць паміж сабой па-беларуску дзеля практычнага пазнання роднай мовы і памагаць адзін аднаму".

У складзе ГБСМ існавалі драматычная, культурна-асветная, гістарычная, агітацыйная і народнага штукарства секцыі, якія адпаведна свайму профілю ладзілі імпрэзы для гуртκоўцаў і наогул для ўсіх беларусаў Калугі. У расійскім горадзе на рацэ Ака вобраз далёкай Беларусі натхняў юных гурткоўцаў да працы сярод суродзічаў, каб духова з'яднаць іх ды дапамагчы ім перажыць злыбяды выгнання.

Вышэйшым органам ГБСМ прызнаваўся агульны сход сяброў. Выканаўчымі органамі гуртка, паводле статута, былі Рада выбарных і Урад, старшынявrouteаў у якіх Янка Крыўка. Гэты чалавек да вайны жыў паблізу Вільні, пісаў допісы на сельскагаспадарчыя тэмы ў беларускі часопіс "Саха". На пачатку вайны яго мабілізавалі ў расійскае войска. Пісьменніца Зоська Верас у сваіх дзённікавых запісах пад назваю "Менск" згадала Я. Крыўку сярод дзеячаў мінскага аддзялення Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны.

"Не помню ўжо, як з'явіўся ў нас новы беларус -- Янка Крыўка, віленчук, а ў той час у войску -- фельдфебель пяхоты, -- пісала яна, успамінаючы 1916--1917 гады. -- Што да яго беларускасці, то не такі ён быў вельмі сведамы. Гаварыў дрэнна, хоць стараўся як мог. Але неяк пацягнула яго да нас, і ўвесь вольны час праводзіў з намі. А чалавек быў цікавы -- універсальны. Да яго можна было зварочацца з рознымі справамі, і дробнымі, і паважнымі, на ўсё знаходзіў раду, у кожным выпадку памог. Ці то дастаць мукі для сталоўкі, ці адрамантаваць машынку да пісання і г.д. А нам, дзяўчатам, радзіў, як пашыць сукенку ці якія купіць пантофлі, і крытыкі яго мы баяліся, як агню. Шмат Крыўка памог сёстрам Бядулі асвоіцца з гарадскім жыццём і яго вымогамі". Паводле ўспамінаў, Янка Крыўка наведваў і мінскі клуб "Беларуская хатка", дапамагаў у арганізацыі беларускага дзіцячага прытулку. "Як заўсёды, дзе бяда, з'яўляўся Янка Крыўка!" -- рэзюмавала Зоська Верас.

Віхуры вайны, відаць, закінулі Янку Крыўку ў Калугу, дзе выпала яму ўзначаліць гурток моладзі. Відавочна, знаходжанне ў асяроддзі мінскіх адраджэнцаў значна паўплывала на развіццё яго нацыянальнай свядомасці і нават надало яму лідэрскага імпэту. Надта паказальна, што ўся дакументацыя гуртка вялася па-беларуску.

Увесну 1918 года, паводле архіўных дакументаў, гурток звязаўся з Белнацкомам і атрымаў ад апошняга рэгістрацыю 30 траўня. Афіцыйным адрасам ГБСМ быў дом N 8 па вуліцы Васкрасенскай і дом на рагу вуліц Казанскай і Вераб'ёўскай.

На гэтым вычэрпваюцца вядомыя факты з дзейнасці Гуртка беларускай сацыялістычнай моладзі.

Вядома толькі, што ў 20-х гадах Янка Крыўка жыў у мястэчку (хутары?) Кучкурышкі каля Вільні. Ён жа друкаваўся ў заходнебеларускіх выданнях з артыкуламі на сельскагаспадарчыя тэмы.

Працяг. Пачатак у № 30.

### ВУЧНЁЎСКАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДА (КАЛУГА)

Паралельна з Гуртком беларускай сацыялістычнай моладзі ў Калузе існавала Вучнёўская Беларуская Грамада. Яна была створана ўвесну 1918 года вучнямі сярэдніх і вышэйшых навучальных установаў горада. 18 чэрвеня 1918 года Грамаду зарэгістраваў Белнацком.

Галоўнай мэтай арганізацыі было "аб'яднанне вучняў-беларусаў усіх навучальных установаў на нацыянальна-культурна-асветнай глебе". Сябрамі Вучнёўскай Грамады былі, паводле архіўных дакументаў, ураджэнцы Гродзенскай, Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў, а таксама некаторых паветаў Смаленскай, Арлоўскай, Віленскай, Ковенскай і Чарнігаўскай губерняў.

Вышэйшым органам арганізацыі быў агульны сход сяброў, выканаўчым -- праўленне на чале з выбарным прэзідыумам. У склад апошняга ўваходзіла 5 чалавек і яшчэ 2 чалавекі былі кандыдатамі. Старшынёй прэзідыума абраны быў П. Сліжэўскі, сакратаром -- А. Раманчук, сябрамі праўлення -- Л. Сушко і В. Кузьміцкая.

Сябры Грамады працавалі ў літаратурнай і драматычнай секцыях. Пры паасобных ВНУ існавалі аддзелы ВБГ. Мела арганізацыя ўласную бібліятэку. Афіцыйным адрасам Грамады быў дом N 18 па вуліцы Лебядзінскай.

Газета Белнацкома "Дзянніца" ў нумары ад 22 чэрвеня 1918 года змясціла заклік Грамады пад назвай "Да вучняў Беларусаў!" Юнакі з Калугі заклікалі моладзь "прасвятляць свой народ" і прапаноўвалі правесці з'езд вучняў-беларусаў. "Наша Вучнёўская Беларуская Грамада, залучаючы вучняў усіх школ горада, -- пісалася ў газеце, -- мае сваім першым заданьнем ствараць із самых сябе тую працоўную інталягэнцыю, каторая аддала-б усе свае сілы на карысьць свайго народу, нашай бацькаўшчыны -- Беларусі, каб павясьці яе да новага культурнага і гістарычнага жыцьця вялікага і слаўнага!" Зварот завяршаўся вершам:

**Руку, товарищ!**
**Работать давай!**
**Работы усиленной**
**Требует край!**

Дарэчы, усе дакументы Грамады напісаны па-руску, з чаго можна зрабіць выснову, што моладзь зусім нядаўна абрала нацыянальную ідэю, і таму ёй яшчэ бракавала ведання беларускай літаратурнай мовы. Відаць, у Грамадзе не было гэткага абазнанага з беларускім рухам чалавека, як Янка Крыўка з ГБСМ.

* * *

Беларускі рух у Калузе не абмяжоўваўся рамкамі толькі гэтых двух гурткоў. Увесну 1918 года ў горадзе гэтаксама існавалі аддзяленне Беларускай Народнай Грамады, цэнтр якой знаходзіўся ў Маскве, і консульства Беларускай Народнай Рэспублікі. Рэпрэсіі з боку Белнацкома і органаў савецкай улады ўрэшце прывялі да ліквідацыі абедзвюх устаноў.

Матэрыяльныя ўмовы жыцця беларусаў у Калузе былі надта цяжкія. Так, выступаючы на Усерасійскім з'ездзе ўцекачоў з Беларусі, які адбываўся ў Маскве 17--22 чэрвеня 1918 года, супрацоўнік Камісіі па справах палонных і ўцекачоў (Пленбеж) пры Калужскім губернскім савеце дэпутатаў Франкоўскі гаварыў пра забарону мясцовымі ўладамі продажу хлеба беларускім ды іншым уцекачам у горадзе.

**Юрка ВАСІЛЕЎСКІ.**



**Усё часцей і часцей маладыя бацькі хрысцяць сваіх дзяцей у царкве. І, як гавораць, слава Богу, што надышлі такія часы, калі ў асабістае жыццё сям'і не ўмешваецца ні парткам, ні прафкам...**

**Яшаньку ЯКАЎЦАВУ, які толькі што прыняў абрад хрышчэння (на здымку), толькі паўгода. Расці, маленькі. Хай беражэ цябе Бог!**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

## "ДАЎГІ МЫ ІМ ЯШЧЭ НЕ АДДАЛІ..."

# СУСТРЭЧА СВЯТА — СВЯТА СУСТРЭЧЫ

2 ЛІПЕНЯ па запрашэнні Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе ў памяшканні гарадской управы сабраліся людзі паважанага ўзросту, ветэраны, франтавікі і партызаны, якія прымалі ўдзел у вызваленні Беларусі ад гітлераўскага нашэсця, а цяпер жывуць у гэтым кутку Латвіі. Іх тут каля 300 чалавек. Усе, хто здолеў прыйсці на гэту сустрэчу, былі ўсцешаны, пачуўшы на ўваходзе цёплыя словы прывітання на беларускай мове і атрымаўшы па гваздзіку і кнізе ў падарунак.

Урачыстае пасяджэнне адкрыў консул Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе Анатоль Жалтоўскі, ён прапанаваў хвілінай маўчання ўшанаваць памяць тых, хто навекі замоўк, загінуўшы ў змаганні з фашысцкай навалай. У сваім прывітальным слове А.Жалтоўскі нагадаў, як вызвалялася Беларусь, расказаў аб цяперашнім становішчы на Бацькаўшчыне, запэўніў, што будзе па магчымасці аказваць ветэранам падтрымку і дапамогу і пажадаў усім франтавой вытрымкі і цярпення.

Потым прысутных шчыра віталі старшыня гарадской рады ветэранаў вайны і працы У.Кірэй і старшыня культурна-асветніцкага таварыства "Уздым" тутэйшых беларусаў З.Дзегцярэнка.

Нямала прыемных хвілін прынёс ветэранам канцэрт, на якім з запалам выступілі мясцовыя ансамблі "Русічы" і "Ліра". Салістка пані Марыся напела з дзесятак вядомых франтавых песень, і зала ёй падпявала, выціраючы слёзы. На гэтым канцэрце меў шчасце прачытаць некалькі сваіх вершаў і аўтар гэтых радкоў...

Потым ветэраны Вялікай Айчыннай вайны былі запрошаны да святочнага стала, дзе паднялі франтавую чарку. З-за паўсядзённых клопатаў ім нячаста выпадае сабрацца разам, і таму тут яны не маглі нагаварыцца. Мне добра запомнілася размова з Дзмітрыем Рафаенкам. "Мы столькі слёз тут зараз выплілі", -- сказаў ён. Гэты чалавек падзяліўся ўспамінамі аб фарсіраванні Дзвіны каля Друі, вызваленні Жлобіна і ўзяцці штурмам Мінска. Не забываюцца таксама твары і словы Аляксея Зайкі і Аляксандра Бабкова. Першы з іх быў франтавіком, вызваляў Лепель, Оршу, Віцебск, другі быў партызанам у Браслаўскіх лясах разам з двума братамі, якія загінулі, робячы дыверсію на чыгунцы...

Дзе знайсці тыя словы, каб лепей выказаць ім сваю ўдзячнасць, дзе знайсці тыя сродкі, каб выразіць гэтую ўдзячнасць матэрыяльна? Бо тут, у Латвіі, яны пазбаўлены ўсіх ветэранскіх ільгот. А дзякуючы такім людзям, на зямлі жыве мір і жыве Беларусь. Дай Божа, каб наша Беларусь жыла добра!..

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**
Даўгаўпілс.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА**

***

**Даўгі мы ім яшчэ не аддалі.**
**Апошні час іх, Божа, аддалі!**
**Жывуць пакуль на**
**свеце ветэраны --**
**Падчас іх зорна зззяюць**
**медалі.**

**З аднога боку --**
**свет вясною ўбраны,**
**Дыханне разняволеных**
**палёў...**
**І зраненыя сэрцы ветэранаў**
**З другога боку гэтых**
**медалёў.**

* * *

**На ўскрайку Еўропы**
**І ў цэнтры Еўропы**
**Іваны, Пракопы**
**Капалі акопы.**

**Падчас на Каляды,**
**Парой на Купалле**
**Пад неба паглядам**
**Акопы капалі.**

**Знаходзіў, бывала,**
**Капаючы, хтосьці**
**Мінулай навалы**
**Салдацкія косці.**

**І гнулася зноў жа**
**Дадолу пытанне:**
**Акоп гэты, можа,**
**Магілай мне стане?**

**Лячыліся жартам**
**Ад скрухі, знямогі:**
**-- А раптам ёсць скарб тут**
**У фонд перамогі!**

**-- Капайма, пяхота, --**
**Акопіны будуць!**
**Яшчэ каля хаты**
**Капаць будзем бульбу!..**

**... У цэнтры Еўропы**
**Й на ўскрайку Еўропы**
**Капалі акопы**
**Вайны далакопы!**

***

**Гады бяруць разбег.**
**Задумайся глыбока,**
**Прыгледзься да сябе,**
**Прыгледзься пільна**
**З боку**

**Высокай той гары**
**Крутой -- магілы брацкай!**
**Гарачая пара**
**Настала**
**разабрацца:**

**Хоць кожны не святы,**
**Ды ўсе твае пралікі**
**Вялікія**
**у тым,**
**Што часам ты -- двулікі!**

**Нялёгка быць сабой.**
**Цяжэй, чым сам,**
**быць лепшым.**
**Вядзі з сабою бой --**
**Ў табе твой вораг злейшы!**

**Ён гнеў твой раздзімаць**
**Амаль з нічога ўмее!**
**А ты сябе трымай --**
**Хоць рукі занямелі б!**

**Імкні сябе,**
**Куды**
**Сумленне папрасіла б.**
**Свой шлях трымай, як сцяг,**
**Хоць -- смерць**
**вачмі касіла б!**

**Калі за праўду йдзеш,**
**Страшней за ўсё -- збаяцца!**
**Героі за цябе ж --**
**Гарой**
**магілы брацкай!**

**Ну як ты апраўдаць**
**Надзеі іх не зможаш**
**І ворага свайго**
**Зацятага не зможаш!!**

**Ні ў якім -- не забудзь**
**Пра доўгі доўг твой самы:**
**Ты Чалавекам будзь**
**З апошніх сіл**
**часамі!**

105

# 14. ДЗЕВЯТЫ ВАЛ ДЭНАЦЫЯНАЛІЗАЦЫІ (1863 — 1904)

Асноўным стрыжнем царскай палітыкі на Беларусі пасля паўстання 1863 года зноў стала русіфікацыя. Яе ініцыятар М.Мураўёў, хоць і быў у 1865 годзе адхілены ад улады, але меў сваіх паслядоўнікаў у асобе пазнейшых генерал-губернатараў і губернатараў. Русіфікацыя ахапіла на гэты раз беларускае сялянства. Яно выпускалася царызмам з цемры непісьменнасці, далучалася ў рускай мове да агульнарасійскіх каштоўнасцяў, выхоўвалася ў духу праваслаўнай маралі... Можа пасля адмены прыгону русіфікацыя набыла цывілізаваныя формы і стала не зусім бескарыснай для беларусаў?

## 14.1. Кіраванне краем

**ФАРМІРАВАННЕ РУСКАЙ АДМІНІСТРАЦЫІ.** У час паўстання мясцовая адміністрацыя, якая складалася пераважна з апалячанай шляхты, фактычна выйшла з-пад падпарадкавання Пецярбурга, сабатавала яго загады, карыстаючыся сваім становішчам, вяла сярод насельніцтва агітацыю супраць расійскага панавання. А таму не выпадкова М.Мураўёў прасіў цара неадкладна ўсе вышэйшыя пасады ў краі, а таксама тыя, што мелі дачыненне да народа, запоўніць

106

рускімі ўраднікамі, а пазней і ўсе астатнія. Аляксандр II пагадзіўся. Расійскія газеты пачалі заклікаць гадаванцаў універсітэтаў стаць місіянерамі рускай народнасці і друкавалі абвесткі пра вакансіі. Урад вабіў каланістаў эканамічнымі выгадамі. Падарожныя выдаткі ім аплачваліся дзяржавай у двайным памеры, а іх службовыя аклады з улікам русіфікатарскай працы павялічваліся ў паўтара раза. Пры неабходнасці выдаваліся і пад'ёмныя грошы ў памеры паўгадавога акладу.

Беларусь запаўнялася велікарускімі бюракратамі, большасць якіх адносілася да адкідаў Расіі. Прылій быў такі, што ў беларускіх гарадах не хапала адукаваных жанчын, каб місіянеры-ўраднікі маглі завесці сям'ю. У варожым акружэнні і ад тугі яны бязбожна пілі і гулялі ў карты. Квітнеў хабар. Багацеі маглі купіць сабе любую пастанову мясцовай адміністрацыі. Новымі прыгоннікамі сталі для сялян земскія начальнікі, якіх цар з 1889 года паставіў для нагляду за вясковымі справамі. Гэтыя пасады маглі займаць толькі рускія. Паводзіны прыезджых ураднікаў не павялічвалі павагі да рускага народа з боку мясцовага жыхарства. Беларусь была нашпігавана рускім войскам, на якое таксама ўскладвалася русіфікатарская місія. Мясцовае насельніцтва пераймала рускія прымаўкі, песні, а таксама брыдкаслоўе.

Ад дзяржаўнай службы адхіляліся фактычна спаланізаваныя беларусы, бо сапраўдных палякаў у нашым краі было няшмат. Але ўрад нічога не зрабіў і для таго, каб рыхтаваць мясцовых ураднікаў хоць бы з асяроддзя праваслаўных

107

беларусаў. Ураджэнцы Беларусі пасля заканчэння універсітэтаў звычайна імкнуліся на радзіму, але іх не дапускалі сюды. Толькі ў 80--90 гадах, ды і то пераважна ў Віцебскай і Магілёўскай губернях, з'явіліся ўраднікі з ліку адукаваных беларусаў сялянскага паходжання. Руская адміністрацыя запанавала ў губернскіх і павятовых цэнтрах. І толькі сялянскае самакіраванне заставалася па нацыянальнаму складу беларускім.

**ПАЛІЦЭЙСКІЯ МЕТАДЫ КІРАВАННЯ.** І пасля паўстання 1863 года Беларусь не пазбавілася ад рэжыму ваеннага становішча, якое канчаткова было адменена толькі ў 1870 годзе. Але не надоўга. Паслядоўнікі Каліноўскага не прыпынялі барацьбы з царызмам і дзейнічалі найчасцей у кантакце з рускімі рэвалюцыянерамі-народнікамі. Адзін з іх -- Ігнат Грынявіцкі, ураджэнец Бабруйшчыны, студэнт Пецярбургскага політэхнічнага інстытута, 1 сакавіка 1881 года зрабіў замах на Аляксандра II. Бомба, якая забіла цара, смяртэльна параніла і 25-гадовага тэрарыста. Новы самадзержац Аляксандр III (1881--1895) абвясціў "Палажэнне аб узмоцненай ахове", якое пры неабходнасці ўводзілася ў той ці іншай губерні імперыі. На яго аснове губернатары і генерал-губернатары надзяляліся амаль неабмежаванай уладай: выдавалі часовыя законы і каралі ўсіх упокат без суда. Беларусь не раз перажывала ўсе жахі губернатарскага дыктатарства. Паліцэйскія метады кіравання не спрыялі натуральнаму развіццю эканомікі і культуры беларускага краю.

108

**ЗАНЯДБАННЕ ПРАГРЭСІЎНЫХ ПЕРАМЕН.** Паўстанне 1863 года, а потым ваеннае становішча затрымалі на Беларусі буржуазныя рэформы Аляксандра II. Яны ўводзіліся ці са спазненнем, ці з урэзкамі. Так, судовая рэформа 1864 года, якая сцвярджала бессаслоўнасць і адносную незалежнасць новых судоў, была распаўсюджана на Беларусь праз 19 гадоў. Земскую рэформу 1864 года, якая ўводзіла выбарныя органы мясцовага самакіравання для арганізацыі пачатковай адукацыі, медыцыны, землямерных работ, статыстычнага ўліку, на Беларусь увогуле не збіраліся распаўсюджваць. Царскі ўрад баяўся, што земскае самакіраванне павялічыць апазіцыйнасць спаланізаваных паноў. Урэшце ўрэзанае земства, якое не выбіралася, а назначалася ўладамі, з'явілася ў трох губернях --Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай -- у 1903 годзе. І толькі ў 1911-м гэтыя губерні атрымалі выбарнае земства. Пры гэтым закон даваў перавагу рускім і адхіляў ад выбараў яўрэяў. Што тычыцца Віленскай і Гродзенскай губерняў, то яны царскага земства так і не пабачылі. Усе гэтыя абмежаванні зніжалі ўзровень сацыяльнага і культурнага абслугоўвання насельніцтва Беларусі.

Толькі Смаленшчына, якую падшпілілі да рускіх губерняў, не ведала юрыдычнай дыскрымінацыі. Але ў расійскай імперыі не забяспечваліся грамадзянскімі правамі нават рускія дваране. Яны не маглі галасаваць і не мелі хоць бы дарадчага голасу. Ужо Прусія ды Аўстрыя і то апярэджвалі Расію. У другой палове XIX стагоддзя там выбарчае права пашырылася на сялян і рабочых.

Захар ШЫБЕКА

**ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX - XX СТАГОДДЗЯХ**

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

109

## 14.2. Асвета

**РУСКАМОЎНЫ МАНАПАЛІЗМ.** Руская мова на Беларусі пасля паўстання 1863 года набыла дзяржаўны статус. Яна стала абавязковай паўсюдна. М.Мураўёў загадаў перапісваць па ўсяму краю шыльды, забараніў размаўляць папольску на сходах і ў грамадскіх месцах, увёў рускую мову нават у справаводства прыватных крам. У 1867 годзе выдаецца царскі загад аб забароне друку на беларускай мове польскім (лацінскім) алфавітам. Рускі ж для гэтай мэты не быў прыстасаваны. Ды і мясцовая інтэлігенцыя спачатку грэбавала ім. А калі выспела жаданне і згода друкавацца па-беларуску рускімі літарамі, то мясцовыя цэнзары для надзейнасці звычайна лічылі за лепшае забараняць усякі беларускі друк, на якім бы алфавіце ён ні быў. А таму закон 1867 года і яго пашыранае тлумачэнне нанеслі цяжкі ўдар беларускаму культурнаму адраджэнню.

**АДУКАЦЫЯ ТОЛЬКІ ДЛЯ НАДЗЕЙНЫХ.** Русіфікацыя школьнай справы на Беларусі пачалася з рэпрэсіўных мер супраць патрыятычнай вучнёўскай моладзі. Навучальныя ўстановы найперш ачышчаліся ад удзельнікаў паўстання. Віну ж студэнтаў Горы-Горацкага земляробчага інстытута ўрад палічыў настолькі вялікай, што ў сакавіку 1864 года закрыў гэтую адзіную на Беларусі вышэйшую навучальную ўстанову. У 1866 годзе ва універсітэтах і інстытутах Расіі ўводзілася працэнтная норма для студэнтаў-ка-

110

толікаў. Гэтае абмежаванне распаўсюджвалася і на беларусаў каталіцкай веры. На шляху да вышэйшай адукацыі ставіліся перашкоды, бо прымнажаць шляхецкую інтэлігенцыю (будучых змагароў за незалежнасць Беларусі) царскі ўрад не хацеў. Палітычна небяспечнай лічылася і інтэлігенцыя з сялянскіх мас. Яна звычайна станавілася на шлях барацьбы з урадам, бо магла параўнаць гаротнае жыццё вёскі, якое добра ведала, з раскошай паноў, доступ у асяроддзе якіх давала адукацыя. Таму Пецярбург з вялікай неахвотай ішоў на адкрыццё ў краі новых гімназій, а ў далейшым так і не дазволіў узнавіць тут дзейнасць хоць бы адной вышэйшай навучальнай установы. Працэс фарміравання высокаадукаванай беларускай інтэлігенцыі ўскладняўся, што не спрыяла нацыянальнаму адраджэнню.

**КЛЕРЫКАЛІЗАЦЫЯ ШКОЛЫ.** Надзейным памочнікам Мураўёва ў справе русіфікацыі краю стаў І.Карнілаў, які ў 1864--1867 гадах займаў пасаду папячыцеля Віленскай вучэбнай акругі. У аснову выхавання і навучання ў рускай школе на Беларусі клалася праваслаўная рэлігія. Вучням убівалася ў галаву, што ўсе праваслаўныя -- рускія, а ўсе католікі -- палякі. Выходзіла, што беларусаў не існавала ўвогуле, іх дзялілі на рускіх і палякаў у адпаведнасці з веравызнаннем. Прапаведавалася нецярпімасць да ўсіх неправаслаўных. Галоўнай асобай у любой школе станавіўся поп. Ён выкладаў законы веры і свяшчэнную гісторыю, а галоўнае -- сачыў за адда-

111

насцю настаўнікаў цару і рускай праваслаўнай ідэі. Варта было неўзлюбіць папу каго-небудзь, як той губляў месца працы. Здаралася, што настаўнікі цярпелі толькі за тое, што не мелі голасу для царкоўных спеваў.

**НАСАДЖЭННЕ РУСКІХ НАСТАЎНІКАЎ.** Царскія ўлады павыганялі са школ усіх беларускіх настаўнікаў каталіцкай веры, бо адносілі іх да палякаў. Неадпаведнымі для русіфікацыі лічыліся нават свяшчэннікі, якія раней спавядалі уніяцтва. У школах не было каму працаваць. Тады папоў і настаўнікаў пачалі выклікаць з цэнтральнай Расіі на тых жа льготных умовах, што і ўраднікаў. Але ўжо пры віленскім генерал--губернатары А.Патапаве (1868--1874) ад мураўёўскіх дзікунскіх метадаў русіфікацыі прыйшлося адмовіцца, каб не даваць падстаў мясцовай шляхце далучыцца да расійскага народніцкага руху.

**ШКОЛЬНАЯ РЭФОРМА 1864 ГОДА.** Успомнілі і пра яе. Рэформа давала права адкрываць народныя, а з 1872 года і гарадскія вучылішчы, якія падпарадкоўваліся Міністэрству народнай адукацыі. Усе астатнія пачатковыя школы розных ведамстваў і прыватных асоб закрываліся. Мужчынскія гімназіі дзяліліся на два тыпы -- класічныя і рэальныя. Першыя спецыялізаваліся на гуманітарных навуках, другія -- на прыродазнаўчых. Пазней рэальныя гімназіі былі пераўтвораны ў рэальныя вучылішчы. Аднак з-за рэпрэсіўных мер урада і адсутнасці земства школьная рэформа 1864 года не мела

112

на Беларусі такіх вынікаў, як ва ўнутраных губернях Расіі.

**ПАЧАТКОВАЯ АДУКАЦЫЯ.** М.Мураўёў выступаў за як мага большае пашырэнне рускай народнай школы сярод беларускіх сялян, каб русіфікаваць іх і выхоўваць у духу хрысціянскай цярплівасці і пакорлівасці ўладам, а таксама любві да цара. Тым не менш, народныя вучылішчы адкрываліся на сродкі сялян і збораў з паноў за ўдзел у паўстанні. Але як толькі сяляне пачалі адмаўляцца ад утрымання школ з-за беднасці, рост іх колькасці прыпыніўся.

Праграма русіфікацыі беларускага сялянства зрывалася. Галоўны начальнік праваслаўнай царквы Расіі, обер-пракурор Сінода К.Пабеданосцаў не мог з гэтым змірыцца. З 1884 года ён пачаў адкрываць на Беларусі царкоўнапрыходскія школы (ЦПШ), якія ўтрымліваліся на сродкі духоўнага праваслаўнага ведамства. Іх адкрывалі ў беларускіх вёсках тысячамі. Хутка яны колькасна намнога перавысілі народныя вучылішчы Міністэрства народнай адукацыі. Нідзе так многа ЦПШ не было, і нідзе пачатковая адукацыя не мела такой рэлігійна-русіфікатарскай накіраванасці, як у Беларусі. Толькі папоўская навука не прышчэплівалася асабліва да беларускіх сялянскіх хлопцаў, а ў паўсядзённым працоўным жыцці забывалася і руская грамата. Сціпла, але без прыніжэння селянін пры выпадку звычайна казаў, што ён "тутэйшы".

# "ЧАМУ АДСТУПНІКАЎ У НАС ТАК МНОГА?"

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**"Кто страданья людей понимает,**
**Кто умеет их скорби смягчить,**
**Кто от чистого сердца прощает,**
**Обладает тот даром любить!"**

У 1914 годзе пачалася першая сусветная вайна, і 35-гадовы Пётр Антонавіч быў пакліканы на вайсковую службу і назначаны ваенным чыноўнікам -- справаводам аднаго з вайсковых ветэрынарных лазарэтаў.

Лютаўская рэвалюцыя 1917 года заспела Крэчэўскага на гэтай пасадзе ў Барысаве. З першых дзён, напоўненых бурлівымі падзеямі, ён уключыўся ў палітычную барацьбу. Крэчэўскі быў выбраны старшынёю Барысаўскага Савета салдацкіх і рабочых дэпутатаў. У якасці дэлегата ад гэтага Савета быў накіраваны на Першы Усебеларускі з'езд, які адбыўся ў снежні 1917 года. Тут Пётр Антонавіч узначаліў мандатную камісію. Добра ведаючы склад дэлегатаў з'езда, у артыкуле "Кто был на 1-м Всебелорусском съезде" ён піша, што прадстаўніком на з'ездзе быў сапраўдны беларускі народ -- сяляне, салдаты і група інтэлігенцыі, якая засталася вернай народу. П.Крэчэўскі быў выбраны ў склад Выканаўчага камітэта Рады Усебеларускага з'езда.

Адзін з паплечнікаў П.Крэчэўскага паэт Макар Краўцоў у сваіх успамінах даволі дакладна і каларытна падае партрэт Пятра Антонавіча:

"...яго пышная рыжаватая барада, крыху прыгнутая, вышэйшая за сярэдні рост фігура ў старым шынялі расейскага вайсковага ўрадніка, недастача пярэдніх зубоў у роце, а праз гэта і глухі тэнаровы тэмбр голасу пры гутарцы -- усё гэта рабіла яго нейкім старэйшым з выгляду... Не магу прыпомніць ані ценю гневу на яго шыраканосым светлым твары, а таксама ў вечна спакойным і вечна ласкавым паглядзе рашучых шырока расплюшчаных вачэй". У той час, у 1917 годзе, Пятру Антонавічу было толькі 38 гадоў.

На долю Крэчэўскага выпала ўдзельнічаць у стварэнні Народнага Сакратарыята Беларусі, у момант адступлення СНК Заходняй вобласці і фронта ён быў дэлегаваны да чыгуначнікаў, якія затрымлівалі бальшавіцкіх камісараў. Крэчэўскі параіў ім патрабаваць ад бальшавіцкіх камісараў заплаціць чыгуначнікам за паўгода наперад. Патрабаванне гэта было выканана.

З моманту стварэння Народнага Сакратарыята Беларусі Пётр Антонавіч займае шэраг важных урадавых пасад: дзяржаўнага кантралёра, народнага сакратара фінансаў, народнага сакратара гандлю і прамысловасці. Ён быў ініцыятарам увядзення ўласнай нацыянальнай валюты пасля дасягнення незалежнасці, прымаў актыўны ўдзел у абвяшчэнні Беларускай Народнай Рэспублікі і яе незалежнасці. П.Крэчэўскім быў распрацаваны праект фінансавых і фіскальных (падатковых) мерапрыемстваў, некаторыя моманты якога не страцілі свайго значэння і сёння. Так, у праекце прадугледжваецца ўкладанне замежных інвестыцый у эканоміку Беларусі як асновы прызнання рэспублікі і трывалага становішча ўласнай валюты, выпуск уласных грошай, якія забяспечваюцца агульным коштам наяўнага лесу (дравесная валюта). Трэба адзначыць, што П.Крэчэўскі займаўся не толькі тэарэтычнай распрацоўкай, але і практычнай дзейнасцю. 24 красавіка 1918 года Крэчэўскі ўзначаліў Цэнтральную беларускую гандлёвую палату. Гэтая ўстанова вырашала пытанні тавараабмену і забеспячэння насельніцтва Беларусі неабходнымі прадуктамі харчавання. У верасні 1918 года разам з Фёдарам Вернікоўскім заключыў пагадненне з урадам Украіны аб тавараабмене. У канцы 1918 года, пасля таго як было заключана пагадненне паміж Літоўскай тарыбай і Віленскай Беларускай Радай, Пётр Антонавіч выконваў абавязкі камісара ў Гродзенскім павеце. У канцы 1919 года ў Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі адбыўся раскол. Прадстаўнікі партыі беларускіх эсэраў і сацыялістаў-федэралістаў, незадаволеныя прапольскай арыентацыяй беларускіх сацыял-дэмакратаў і ўрада Антона Луцкевіча, на пасяджэнні 13 снежня 1919 года аб'явілі пра стварэнне Народнай Рады БНР на чале з П.Крэчэўскім.

З гэтага часу і да сваёй смерці П.Крэчэўскі ўзначальваў Раду БНР. З-за неспрыяльных абставін прадстаўнікі Рады БНР былі вымушаны падацца ў эміграцыю. Спачатку ў Коўне, потым у Празе Пётр Антонавіч не спыняе сваёй дзейнасці на карысць Беларускага нацыянальнага адраджэння. Ён пратэстуе супраць заключэння Рыжскага мірнага дагавора паміж Савецкай Расіяй і Польшчай. 20 мая 1924 года ён накіроўвае мемарандум у Лігу нацый, у якім дамагаецца належных беларускаму народу правоў. У 1926 годзе пад яго рэдакцыяй выходзіць зборнік па гісторыі, культуры і эканоміцы "Замежная Беларусь". У ім Пётр Антонавіч выступае не толькі як публіцыст, але як гісторык і літаратар. Актыўны палітычны дзеяч, у душы ён заўсёды заставаўся паэтам. Пра гэта сведчыць цэлы шэраг вершаў П.Крэчэўскага, што захаваліся, а таксама дзве вершаваныя паэмы.

У 1918 годзе, насычаным важнымі падзеямі, ён знаходзіць час і ў "Вольнай Беларусі" 9 чэрвеня змяшчае свой верш -- апрацаваную народную беларускую легенду пра стварэнне бусла. У сваім вершы ён піша:

**"І беларус буслоў шануе,**
**Ён кажа: "Нельга бусла біць,**
**Бо Янкі ў ім душа існуе,**
**Ён чалавек і хоча жыць".**

6 студзеня 1921 года П.Крэчэўскі стварае вершаваную драму "Рагнеда", а 2 лютага 1923 года робіць інсцэніроўку паэмы Агарова "Глінка". Шэраг вершаў, а таксама вершаваных перакладаў з чэшскай і ўкраінскай моў Пётр Антонавіч друкуе і ў зборніку "Замежная Беларусь". У вершы "Таемная смага" адчуваецца туга Крэчэўскага па Радзіме:

**"Душу мне страх агортае,**
**Стыгне ў жылах і кроў...**
**Сэрца нічога не знае --**
**Цягнецца толькі дамоў."**

Пётр Крэчэўскі як Старшыня Рады БНР не згадзіўся з рашэннем Берлінскай канферэнцыі 1925 года аб роспуску Рады БНР, лічыў гэта бальшавіцкай правакацыяй. Ён вельмі моцна перажываў, што многія з яго паплечнікаў паверылі абяцанням савецкай улады. У вершы "Мурашнік", параўноўваючы жыццё мурашак і людзей, Пётр Антонавіч піша:



**"Паміж людзьмі мы бачым**
**штось другое...**
**Для Бацькаўшчыны працаваць**
**ім стыд,**
**Ім дзесьці свеціць шчасьце міравое,**
**А родны край няхай гарыць!.."**

Памёр Пётр Крэчэўскі на пяцідзесятым годзе жыцця ў Вінагродскай бальніцы Прагі і быў пахаваны там на мясцовых могілках. Мінула 66 гадоў з дня смерці носьбіта ідэі беларускай незалежнасці, але многія думкі, выказаныя ім, на вялікі жаль, з'яўляюцца актуальнымі і сёння.

**"Чаму адступнікаў у нас так многа!**
**Чаму ж такіх адступства не страшыць!**
**Чаму родны сьцяг не цягне да сваёга!**
**Чаму на ўласнай глебе працаваць**
**ім стыд,**
**Але не стыд -- у наймітах, у чужога."**

Будзем спадзявацца, што верш-зварот "Беларускаму народу" будзе пачуты:

**"Дзе слова наша, слаўны род**
**Славян, з прадвеку жыўшых вольна,**
**Выходзь жа, беларус-народ,**
**Са братняй крыўды безпатольнай,**
**Выходзь на сьвет з багны балот,**
**Як тыя рэчкі, што нясуцца**
**Зь зямлі тваёй на поўдзень, усход --**
**Выходзь, выходзь!.."**

**Валянцін МАЗЕЦ.**

## "СЛАВЯНСКІ БАЗАР" АПРАЎДАЎ СПАДЗЯВАННІ





"Славянскі базар" у Віцебску прайшоў як вялікае ўрачыстае свята славянскіх культур. Ён стаў поруч з Сопатам, Карлавымі Варамі, Сан-Рэма і Лос-Анджэлесам. "Фестываль быў "запатэнтаваны" на самай прэстыжнай музычнай ярмарцы ў Канах, -- сказаў кіраўнік Віцебскай дырэкцыі фестываляў Радзівон Бас. -- Таму ў Віцебск разам з зоркамі эстрады прыехалі і шоу-менеджэры, славутыя музычныя арганізатары".

Віцебск з нядаўніх часоў называюць сталіцай славянскай музычнай культуры. І не толькі славянскай, бо побач са спевакамі і музыкантамі з усіх еўрапейскіх славянскіх дзяржаў гасцямі і ўдзельнікамі свята былі асобныя выканаўцы і творчыя калектывы з Францыі, Ірландыі, Румыніі, Італіі, Літвы, Грузіі, Малдовы, Узбекістана, славянскіх дыяспар з усіх куткоў зямнога шара.

Фестываль рассыпаўся па ўсім Віцебску, але галоўнай сцэнічнай пляцоўкай быў летні амфітэатр пад адкрытым небам на пяць тысяч гледачоў. І на гэтай славутай сцэне выступалі зоркі беларускай, рускай, украінскай эстрады -- Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, Юрый Антонаў, Тамара Гвердцытэлі, Ларыса Доліна, Уладзімір Мулявін з "Песнярамі", Ала Пугачова, Філіп Кіркораў, Надзея Бабкіна. У тэатры імя Якуба Коласа працаваў Цэнтр нацыянальных культур з разнастайнай праграмай, дзе можна было пазнаёміцца з культурнымі каштоўнасцямі братніх народаў. І гэта было бясплатна, хоць лепшыя білеты на фестываль каштавалі звыш **60 000** рублёў. Упершыню білет на любы фестывальны канцэрт быў яшчэ і латарэйным білетам.

На фестывалі праходзілі Дні нацыянальных культур, якія вызначаліся выступленнямі лепшых калектываў і славутых зорак эстрады той ці іншай краіны, выставамі мастакоў, выступленнямі маладых канкурсантаў.

Пра тое, што дае "Славянскі базар" Віцебску, сказаў старшыня гарвыканкама, прэзідэнт фестывалю Валерый Неушаў: "Для любога жыхара Віцебска фестываль -- вялікае свята. Акрамя таго, ён прыцягвае ў горад сродкі: напаўняецца гасцінічны комплекс, які звычайна пустуе, з поўнай нагрузкай працуе сфера бытавога абслугоўвання".

Удзельнік фестывалю Мікі Еўрэмавіч сардэчна выказаў свае адносіны да фестывалю, усёй яго добразычлівай атмасферы: "Калі б я не быў сербам, абавязкова б нарадзіўся беларусам".

Адшумеў "Славянскі базар", які многа абяцаў гледачам і непасрэдным удзельнікам і не падмануў іх спадзяванняў.

НА ЗДЫМКАХ: галоўная сцэна фестывалю; спявае Філіп КІРКОРАЎ.



# ВІЦЕБСК, ЛЕТА 1994-га,

## або СУБ'ЕКТЫЎНЫЯ НАТАТКІ МЕСЦІЧА З НАГОДЫ ПЕРШАГА МІЖНАРОДНАГА ШАГАЛАЎСКАГА ПЛЕНЭРУ

### "КАЛІ Б Я НЕ БЫЎ ЯЎРЭЕМ..."

Сярод выстаў, наладжаных у Віцебску падчас Шагалаўскага пленэру, была яшчэ адна, якая асабліва не вылучалася ні памерамі экспазіцыі, ні прадстаўнічасцю экспанатаў і размяшчалася ў двух невялікіх пакойчыках музея прыватных калекцый. Называлася яна "Культура і быт яўрэяў на зямлі Шагала". На ёй былі прадстаўлены звычайныя побытавыя рэчы мяжы XIX-XX стагоддзяў: гадзіннікі, ювелірныя вырабы, аптэчны посуд, візітныя карткі, сямейныя фотаздымкі,



паштоўкі з відарысамі гарадоў і выявамі сінагог, малітоўнікі, суботнія падсвечнікі і г.д. Гэтая выстава наўрад ці здзівіла чым гасцей і ўдзельнікаў пленэру, вока якіх неаднойчы цешылася дасканалымі прыкладамі мастацтва народа Ізраіля, сканцэнтраванымі ў музеях свету. Яна хутчэй уразіла саміх віцебскіх месцічаў тым, як мала ўзораў яўрэйскага мастацтва захавалася ў мясцовых сховішчах, як спляжана сёння культура цэлага народа. "Гісторыя Беларусі з'яўляецца кнігай, якую гарталі, але не чыталі. Адной з нечытаных старонак гэтай кнігі сталася гісторыя яўрэйскага народа амаль за 500 гадоў яго пражывання на гэтай зямлі", -- такімі словамі пачаў размову з наведвальнікамі выставы загадчык музея Віктар Голасаў.

Працяг. Пачатак у № 30.

Касмічнае мастацтва Марка Шагала ўзрасло з нацыянальнай культуры яўрэйскага народа. "Калі б я не быў яўрэем (у тым сэнсе, які я ўкладаю ў гэтае слова), я ніколі не стаў бы мастаком або быў бы іншым мастаком", -- гэтыя словы самога Майстра з'яўляюцца вызначальнымі для разумення галоўнай сутнасці яго творчасці.

Як асэнсоўваецца сёння ў свеце сама праблема яўрэйскай культуры? Гэтае пытанне сталася адной з тэм абмеркавання на "круглым стале" пленэру, што адбыўся 4 ліпеня і быў прысвечаны творчасці Шагала. Мастацтвазнаўца з Масквы Марына Бяссонава, якая толькі што вярнулася з Ізраіля з чарговага кангрэса, прысвечанага яўрэйскаму мастацтву, адзначыла, што да вырашэння гэтай праблемы намеціліся прынцыпова новыя падыходы. "Ужо зараз зразумела, -- сказала яна, -- што наступны кангрэс будзе прысвечаны Іерусаліму ў цэлым і праблеме яўрэйскай культуры ў праламленні культур іншых краін. Гэта перш за ўсё праблема ўзаемакантактаў, узаемасувязей, і творчасць Шагала ў гэтым сэнсе да сённяшняга дня застаецца самай важнай, самай загадкавай, самай недараскрытай, таму што інтэрпрэтаваць яе можна з пазіцый надзвычай розных і вельмі цікавых".

Цешыць тое, што такі падыход да вырашэння праблемы сустракае сёння паразуменне і на Беларусі. "Яўрэйская культура Беларусі і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі" -- міжнародную навуковую канферэнцыю з такой назвай наладзіў у Мінску ў траўні бягучага года навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны. Віцебская выстава "Культура і быт яўрэяў на зямлі Шагала" -- гэта таксама хоць і маленькі, але істотны крок на шляху да ўласнага і ўзаемнага разумення культур. Рух насустрач трэба пачынаць аднача́сова з абодвух бакоў -- Беларусі і Ізраіля, толькі ў такім выпадку ён дасць найлепшы плён.

"Беларуская культура ўвайшла ў сусветную культуру праз свой яўрэйскі складальнік", -- з гэтымі словамі яшчэ аднаго маскоўскага мастацтвазнаўцы Юрыя Герчука было немагчыма не пагадзіцца. Сп. Герчуком таксама была выказана думка аб тым, што вывучэнне той культурнай агульнасці, у якой адбывалася фарміраванне Шагала як мастака, дасць дадатковыя ключы і для разумення творчасці Майстра.

Шкада, што падчас дыскусіі за "круглым сталом" яе ўдзельнікам не хапіла часу пачаць размову пра творчасць сучасных яўрэйскіх мастакоў, што жывуць па-за межамі Ізраіля. Пэўнае, хоць і вельмі вузкае кола гэтых аўтараў, было прадстаўлена і на Шагалаўскім пленэры.

Сучаснае мастацтва яўрэйскіх мастакоў з краін былога СНД -- з'ява, здаецца, яшчэ не вельмі дакладна акрэсленая. Аднак ужо зараз зразумела, што і яна -- складальнік асобнага пласта еўрапейскай культуры, які патрабуе спецыяльнага вывучэння і захавання.

### "СКРЫПКА ШАГАЛА"

У гады "віцебскага рэнесансу" нават на мастакоў, што на той час сабраліся ў горадзе, найбольшае ўражанне аказвала музычнае жыццё, незвычайна багатае і інтэнсіўнае. Сам Шагал у артыкуле для часопіса "Сорабис" у 1919 годзе пісаў: "Мяне, што меў шчасце нарадзіцца ў такім "выбітным" горадзе, як Віцебск, здзіўляе, што тыя самыя "клезмер" (скрыпачы. -- **Л.Х**), якіх я на вяселлях прасіў сыграць вальс або падэкатр і якія згаджаліся не інакш, як атрымаўшы 20 капеек, -- цяпер іграюць Шостую сімфонію Чайкоўскага, падбіраюцца да Дэбюсі, хутка, я спадзяюся, будуць добра выконваць "Вясну свяшчэнную" Стравінскага".

Даўно ўжо няма на віцебскіх вуліцах шагалаўскіх "клезмер", імклівыя тэмпы "прафесійнага росту" якіх (да ўдзельнікаў сімфанічнага аркестра) выклікалі натуральную іронію ў сучаснікаў. Вытанчаны слых сённяшніх віцебскіх меламанаў звыкла цешыцца прафесійным выкананнем лепшых музычных калектываў Беларусі і яе суседзяў, якія штогод збіраюцца на два музычныя фестывалі: камернай музыкі імя Івана Салерцінскага і класічнай гітары. Гэтым летам да іх далучыўся яшчэ адзін -- фестываль "Скрыпка Шагала".

Пачынаўся ён падчас урачыстага адкрыцця пленэру 20 чэрвеня канцэртам славутага камернага ансамбля "Салісты Масквы" пад кіраўніцтвам народнага артыста Расіі Юрыя Башмета. На гэты раз віцебская публіка і ўдзельнікі пленэру мелі магчымасць паслухаць творы Франца Шуберта, Густава Малера, Арнольда Шонберга, "Брандэнбургскі канцэрт N 6" Баха. У "Маналогу для альта і струнных" Альфрэда Шнітке саліраваў сам Маэстра -- Юрый Башмет. "Мы з задавальненнем будзем прыязджаць у Віцебск яшчэ, запрашайце нас", -- сказаў на развітанне кіраўнік ансамбля, якога публіка доўгімі апладысментамі, стоячы, ніяк не адпускала са сцэны.

Праз тыдзень Віцебск наведаў Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі, мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор якога Інга Эрнст Райль (Германія) прадставіў слухачам цікавую праграму з твораў Моцарта і беларускага кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча. Асабліва шчырыя сімпатыі публікі



выклікала Айліш Керыган з ЗША (меццасапрана), якая з вялікім артыстызмам і пачуццём выканала некалькі вакальных твораў з цыклаў нямецкіх кампазітараў Ганса Эйслера, Курта Вайля і Пауля Дэсау на вершы Бэртальда Брэхта.

Потым сваю праграму перад гасцямі і ўдзельнікамі свята прадстаўляў Мінскі камерны аркестр, а ў дзень закрыцця пленэру -- Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Віктара Дуброўскага. Гектар Берліёз, Генрых Вагнер, Ігар Стравінскі -- чароўныя гукі музыкі авалодвалі залай, захаплівалі, але публіка ўсё ж крыху нервавалася, усе чакалі галоўнага -- новага твора Марка Блёза (Францыя), напісанага спецыяльна з нагоды Шагалаўскага пленэру. Нарэшце вядучы абвясціў: "Марк Блёз "Дзве сімфанічныя карціны ў гонар Марка Шагала". Салістка -- Анна Фандэвіль (Францыя). За дырыжорскім пультам -- аўтар. Першае выкананне".

Хто пасля гэтага наважыцца называць Віцебск правінцыяй?

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Люба ЖУХАВІЧАР (Масква). "Галава хлопчыка". Папера, пастэль. Праца перададзена ў дар Віцебскаму мастацкаму музею; іграе Юрый БАШМЕТ.**

**Фота Уладзіміра БАЗАНА і Людмілы ЛЯШЧОВАЙ.**

---

## КАБ ЛЕПЕЙ ВЕДАЦЬ МОВУ...

У выдавецтве "Народная асвета" пабачыў свет "Тлумачальны слоўнік беларускіх прыназоўнікаў" П. Шубы. Выданне гэтае ў першую чаргу разлічана на вучняў сярэдніх і старшых класаў, але карысным будзе для кожнага, хто хоча лепей ведаць родную мову. У слоўніку раскрываюцца значэнні прыназоўнікаў, растлумачваюцца складаныя граматычныя пытанні, што тычацца ўжывання прыназоўнікаў з тым ці іншым склонам. Акрамя таго, ёсць гісторыка-этымалагічныя даведкі, прыводзіцца ў патрэбных выпадках паралель з рускай і ўкраінскай мовамі.

## ПРАФЕСІЯ І ЯЕ ТАЯМНІЦЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Я шчаслівы, што значную частку творчага жыцця быў звязаны з "Палескай хронікай"...

Генадзь Гарбук нарадзіўся ў вёсцы Глыбачка Ушацкага раёна. Па яго дзяцінству прайшла вайна. Калі фашысты блакіравалі партызанскае злучэнне, сям'я пайшла ў лес, да бацькі Міхаіла Ануфрыевіча. У дзесяць гадоў хлопчык ведаў, што такое бяда. Гэта не магло не пакінуць следу. Магчыма таму ёсць у мастацтве Гарбука нявыказаны, несуцешны боль.

Вучыўся ён у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце ў народнага артыста рэспублікі Д. Арлова.

-- Мне вельмі пашанцавала, -- расказвае Генадзь Міхайлавіч, -- што першым настаўнікам быў у мяне Дзмітрый Аляксеевіч. У пачатку кожнай новай работы ён гаварыў нам: "Чым вы можаце здзівіць гледача? Толькі глыбокай думкай. Палымяным пошукам вашымі героямі сэнсу жыцця". І сёння перад кожнай сваёй новай роллю я паўтараю гэтыя словы настаўніка.

Чатыры гады пасля заканчэння інстытута Г. Гарбук працаваў у тэатры імя Якуба Коласа ў Віцебску, а з 1962 года ён -- купалавец. Тут ён стварыў вобразы Васіля ў "Людзях на балоце", Сымона ў "Раскіданым гняздзе", Кэліна ў "Святая святых", Сіпатага ў "Аптымістычнай трагедыі". І сёння бачым яго Холадам ("Час ахвяры"), Юткам ("Вежа"), Лайзерам ("Памінальная малітва") і ў многіх іншых ролях, якія ўвайшлі ў залаты фонд, сталі каштоўным набыткам тэатра і артыста.

Больш за 30 год выходзіць ён на сцэну, дзе ўвасобіў шмат персанажаў. Паспяхова працуе Гарбук і ў кіно. Мы бачылі яго ў стужках студыі "Беларусьфільм" "Чорны замак Альшанскі", "Белыя Росы", "Людзі на балоце" і шмат іншых. Але калі гаварыць пра творчы лёс, то не колькасцю сыграных роляў вызначаецца ён, не часам, праведзеным на сцэне, а ўсведамленнем сутнасці сваёй прафесіі, яе таямніц.

-- Чым болей ты назапасіў у сваім сэрцы, тым больш аддасі людзям, -- гаворыць Генадзь Міхайлавіч. -- Усё астатняе толькі сродак да дасягнення мэты. Прыгожы ты -- добра, статны -- цудоўна, голас з багатым тэмбрам -- выдатна. Але ўсё гэта важна толькі тады, калі ты ведаеш, што нясеш людзям, дзеля чаго выйшаў на сцэну. І самае важнае -- выявіць сацыяльную падаплёку вобраза, прасачыць яго сувязь з асяроддзем, што яго парадзіла.

Прафесія акцёра толькі тады мае сэнс, калі ёсць магчымасць іграць, здымацца, чытаць па радыё, з эстрады, -- працягвае артыст. -- Сустракаючыся з рознымі рэжысёрамі, акцёрамі ў кіно, на тэлебачанні, назіраючы манеру гульні, мы пастаянна ўзбагачаем сваё мастацтва. Але тым не менш почырк роднага тэатра захоўваем заўсёды.

-- Ну, а што да планаў, -- усміхнуўся Генадзь Міхайлавіч, -- вось пачалі рыхтаваць спектакль па п'есе Францішка Аляхновіча "Манька", і пакуль рэпетыцыі прыпынены: няма грошай на дэкарацыі. Так што завяршаць работу над пастаноўкай будзем у наступным сезоне. А пра ролю я змагу сказаць толькі тады, калі яе сыграю...

...Гады ідуць. Надыходзяць і праходзяць юбілейныя даты. І толькі назаўсёды застаецца з артыстам яго талент, яго творчасць.

**Зоя ФЕДЧАНКА.**

## ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА




**13 жніўня, субота**

### ДВОР-СЯДЗІБА М. БАЛІНСКАГА

У 1984 годзе мы з Арсенам Лісам запісвалі беларускі фальклор вакол Вільні. Маючы ўжо немалы запас арыгінальных твораў, працягвалі выяўляць новыя. Дайшлі і да старога маляўнічага двара Яшуны, што прытуліўся край даліны паміж узгоркаў Віленскай зямлі. Расступіліся векавыя дрэвы, і на сонцы засвяціўся жаўцізной помнік класіцызму XIX стагоддзя. Гэта двор-сядзіба Міхала Балінскага.

Дык хто ж быў гаспадар? Міхал Ігнатавіч Балінскі нарадзіўся 200 гадоў назад у Цярэспалі пад Полацкам (на думку Ч.Янкоўскага, радзіма М.Балінскага -- Яшуны). Асноўную частку жыцця вучоны пражыў (і памёр) у Яшунах. Адгэтуль недалёка да Вільні, і гаспадару нічога не каштавала сесці ў брычку і даехаць да Вялікай вуліцы, дзе ён рэдагаваў часопіс "Віленскі штотыднёвік", а заадно і пабываць у многіх сяброў.

Адораны здольнасцямі гісторыка, публіцыста, краязнаўца, М.Балінскі зрабіў за сваё жыццё нямала. Скончыў Віленскі універсітэт. Выдаваў часопісы, удзельнічаў у паўстанні 1830--1831 гадоў і быў арыштаваны. Нейкі час жыў у Варшаве і таксама быў звязаны працай з часопісам "Вулічныя паведамленні". Неўзабаве вярнуўся ў Вільню і супрацоўнічаў у музеі старажытнасцей.

Першай буйной гісторыка-краязнаўчай працай М.Балінскага з'явілася "Гісторыя горада Вільні" ў двух тамах (1836--1837), у якой шмат фактаў з гісторыі Беларусі. Выдаў трэці том "Старажытнай Польшчы" (1846), дзе на багатым фактычным матэрыяле апісаў мноства населеных пунктаў Беларусі. Усё ж ён разглядаў Беларусь як частку Рэчы Паспалітай. Часам з'яўлення славян на Беларусі лічыў V стагоддзе н.э., мяркуючы, што паходзяць яны ад каўказскага племені. Не адмаўляў аўтар ролі скандынаваў у развіцці старажытнарускай дзяржаўнасці. З помнікаў мінулага яго цікавілі абарончыя збудаванні. У прыватнасці, ён збіраў звесткі пра Гальшанскі, Лідскі, Крэўскі, Меднікаўскі і іншыя замкі. Ім адкрыты шэраг цікавых археалагічных помнікаў. Балінскаму ўдалося, напрыклад, адзначыць каштоўнасць феадальнага замка на востраве возера Мястра, што побач з Мядзелем. Асобным выданнем Балінскі падрыхтаваў кнігу пра Крэўскі замак (1842--1843).

Напісаў гісторыю Віленскага універсітэта, даў біяграфіі братоў Снядэцкіх, чыё жыццё звязана з гэтым універсітэтам.

Ул. Сыракомля цаніў М.Балінскага за тое, што ён знайшоў і апублікаваў літаратурны помнік XVII стагоддзя "Ліст да Абуховіча", напісаны шляхціцам Цыпрыянам Камунякам. Вядома яшчэ і тое, што Балінскі зрабіў памятны запіс у славутым "Альбоме" А.І.Вярыгі-Дарэўскага.

Дакументальныя асновы многіх прац М.Балінскага не страцілі свайго практычнага значэння і сёння.

**Генадзь КАХАНОЎСКІ.**

## ТАПАНІМІЧНЫЯ ЭЦЮДЫ

# ДЗЕ КАРАНІ НАЗВЫ ТВАЙГО ПАСЕЛІШЧА?

### РУЖАНЫ

Паводле легенды, якую апавядаюць мясцовыя жыхары Ружанаў, назва мястэчка (па-мясцоваму Ражана, Ружана) з'явілася ў часы віленскага канцлера і ваяводы Льва Сапегі, а ў аснове яе -- імёны дзвюх яго дачок Ружы і Анны. У адным касцёльным ружанскім дакуменце, датаваным 1850 годам, так і значыцца -- Ружанна праз два "н" ("Маладосць", 1971, N 6). Сапраўды, паселішча з даўніх часоў належала аднаму з багацейшых у Вялікім Княстве Літоўскім роду Сапегаў. Толькі імёны дачок Льва Сапегі ніяк не маглі паслужыць асновай для назвы, паколькі іх бацька нарадзіўся ў 1587 годзе, на цэлае стагоддзе пазней за першае згадванне пра Ружаны ў пісьмовых крыніцах (1481 год, магчыма не самае ранняе). Прычым назва адзначаецца ў трох варыянтах: Рожана, Рожаная, Ружаны.

Паводле другога падання, паселішча назвалі Ружанамі з той прычыны, што яго жыхары вырошчвалі прыгожыя ружы. Але ж хіба да таго, як з'явіліся кветнікі з ружамі, паселішча ніяк не называлася? Ды ці такая важная і тыповая гэта прыкмета, каб яна магла звярнуць на сябе ўвагу пры найменні паселішча?

Былі спробы звязаць назву Ружаны са старарускім прыметнікам рожаный -- рагавы (ад рог, кут, востры клін). Калі для назваў паселішчаў утварэнне па такой прыкмеце ў нейкай ступені можна дапусціць (хутчэй усё ж Рог, Ражок, Рагі, Ражкі), то для назваў рэк, азёр, ручаёў такая магчымасць наогул выключаецца. Іншая справа, калі слова рог, як мяркуюць некаторыя даследчыкі, было сінонімам слова лес (Рожаная раўназначна Лясная). Але гэта пакуль што не даказана.

Варты ўвагі той факт, што ў старабеларускіх пісьмовых помніках назва паселішча і ракі адзначаецца ў форме прыметніка -- Рожана, Рожаная, Ружана, Ружаная. У гэтай жа форме яна захавалася і ў народных паданнях (Ружанна), і ў памяці мясцовых старажылаў (Ражана, Ружана). Гэта наводзіць на думку, што ў яе аснове адбілася нейкая прыкмета. У старабеларускай і старапольскай мовах быў прыметнік рожаный, які абазначаў паняцці "ружовага колеру", "ружовы". У пісьмовых помніках XV--XVII стагоддзяў пра гэта сведчаць такія выразы, як рожаный куст; рожаный венец; рожаная барва на твары; мочивъ во воде рожаной. Досыць часта ўжываецца ў гэты перыяд і зыходны назоўнік рожа -- ружа (пра кветку). Зараз ён захаваўся толькі ў асобных дыялектах ўсходнеславянскіх моў.

Зусім магчыма, што рака з гліністым дном і ружовым колерам вады магла атрымаць назву Рожана, Рожаная (як Белая, Жоўтая, Чорная), якая потым была б перанесена на паселішча. Ружанкай (памяншальным словам) раку назвалі пазней, калі яна змялела і стала ўспрымацца як другарадны аб'ект у параўнанні з паселішчам.

Адгідранімічная версія падтрымліваецца наяўнасцю шматлікіх назваў водных аб'ектаў з коранем рож-, руж- на тэрыторыі Беларусі, Польшчы, Украіны: Ружаніца -- прыток Вужа, Прыпяці, Дняпра, Рожанка -- прыток Стрыя, Днястра, Ружа -- лясное возера ў Ляскім павеце, Ружаніца або Ружана -- рэчка ў Макоўскім павеце, Ружанец -- ручай у Стрыйскім павеце, Ружаньсток, Ружанасток -- ручай у Сакольскім павеце, Ружава -- прыток Прыпяці, Ружавец -- прыток Іліі. У шэрагу выпадкаў назіраецца супадзенне назвы ракі і размешчанага на ёй паселішча: Рожанна або Рожанно -- лясніцтва і маёнтак у Быдгодскім павеце над рэчкай Рожанной, Рожанка Ніжняя і Рожанка Гурна -- вёскі над ракой Рожанкай, Ружаніца або Ружана -- рэчка, мястэчка і вёска ў Слонімскім павеце. Характэрна і тое, што назвы з коранем рож-, руж- утвараюцца з дапамогай тых жа суфіксаў, што і іншыя гідронімы з атрыбутыўнай асновай (параўн.: Белка, Белаводка, Беліца, Чарніца).

Форма множнага ліку ўзнікла пад уздзеяннем множналікавай мадэлі, якая вельмі характэрна для беларускай айканіміі. Аналагічным спосабам утвораны назвы вёсак: Танежычы -- на р. Тонеж, в. Грамніцы -- на р. Грамніца, в. Удранкі -- на р. Удранка і іншыя.

Як жа растлумачыць наяўнасць варыянтаў з коранем рож-, руж-? Назвы з коранем рож- адзначаюцца значна раней, чым з коранем руж-. Напрыклад, рака Рожанна ў польскіх дакументах згадваецца пад 1363 годам. Трэба думаць, што гэта агульнаславянская каранёвая аснова. Замена "о" на "у" адбылася значна пазней пад уплывам польскай мовы.

Асобна стаяць назвы Ружампаль, Ружамполле. Яны ўзніклі штучна і з'яўляюцца своеасаблівай данінай модзе "прыхарошвання", якая працвітала ў свой час у шляхетным асяроддзі. Першая частка гэтых назваў мае пераносны сэнс -- прыгожы, светлы, а другая частка -поль (ад грэч. поліс) азначае горад, а -полле -- поле, зямля. Вось чаму ў рускамоўных крыніцах яны перадаваліся як Краснопаль, Краснаполле.

**Валянціна ЛЕМЦЮГОВА.**



Лета.

Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ..

## СПОРТ

### ГУЛЬНІ ДОБРАЙ ВОЛІ

Кожныя чатыры гады праводзяцца Гульні добрай волі па чарзе то ў ЗША, то ў Расіі (раней -- былым СССР). Сёлета іх адкрыццё адбылося ў Санкт-Пецярбургу. Сюды прыслала сваіх прадстаўнікоў і наша рэспубліка. 70 спартсменаў выступяць у многіх відах спорту.

Ужо прыйшло паведамленне са спаборніцтваў штангістаў. Бронзавыя медалі дасталіся беларусам Алегу Чырыцу і Генадзю Шчакалу.

Мы маглі б разлічваць і на большае. Скажам, у плаванні. Але некаторыя мацнейшыя плыўцы, у тым ліку і наша алімпійская чэмпіёнка Алена Рудкоўская, палічылі лепшым у Санкт-Пецярбургу не выступаць, а ўдзельнічаць у першынстве свету, якое пройдзе праз месяц пасля заканчэння Гульняў добрай волі.

### НА РОЗНЫХ УЗРОЎНЯХ

Пачаліся чвэрцьфінальныя гульні першынства свету па шахматах. У ліку прэтэндэнтаў і беларус Барыс Гельфанд. У Індыі ў гульні Барыс Гельфанд -- Уладзімір Крамнік пакуль ніводзін з шахматыстаў не дамогся перавагі -- нічыя.

Нядаўна фінішаваў міжнародны турнір памяці вядомага венгерскага спартсмена Абоньча. Ён прынёс поспех мінчаніну А.Ройзману, які правёў спаборніцтвы без паражэнняў.

### І ВЕТЭРАНЫ, І МОЛАДЗЬ

У разгары лёгкаатлетычны сезон. Ён прыносіць добрыя весткі аб выступленні нашых землякоў. Так, на чэмпіянаце свету сярод юніёраў вызначыўся шаставік Дзмітрый Маркаў. Яго лепшы вынік -- 5 метраў 50 сантыметраў, што дало магчымасць нашаму спартсмену заваяваць "серабро".

На апошнім этапе серыі Гран-пры мінчанін Уладзімір Сасімовіч заняў другое месца ў кіданні кап'я. А яго зямлячка Наталля Шыкаленка ў гэтым відзе спаборніцтваў была трэцяй.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск".
Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
Тыраж 6 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1111.
Падпісана да друку 1. 8.1994 г.